Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць з верасня 1995 года

# Газета Уладзіміра Кудзінава

СЕРАДА
№ 69 (98)
4 верасня 1996 года

Цана па падпісцы – 444 руб.
цана ў розніцу – 700 руб.

## ЧАС МЯСЦОВЫ

Інфармацыйны выпуск падрыхтавалі: В. ГАПЕЕЎ, М. РЫМАЧ.

## 3 мільярды 700 мільёнаў

беларускіх рублёў пералічана сёння Івацэвіцкім філіялам „Беларусбанка” на рахункі ветэранаў вайны ў якасці кампенсацыі грашовых укладаў.

Сёння кампенсацыя ўкладаў праводзіцца не толькі ветэранам, але і асобам да іх прыроўненым, тым, хто мае „Пасведчанне аб праве на льготы”, афганцам, інвалідам вайны. Маюць права на кампенсацыю і наследнікі такіх людзей, калі, вядома, іх родны (памерлы) меў рахунак на 1 студзеня 1992 года.

У службу па налічэнню кампенсацыі з заявамі звярнулася ўжо каля тысячы чалавек. Больш сяміста заявіцелям кампенсацыі налічаны.

Апошняя навіна – прыемная. Згодна з рашэннем Кабінета Міністраў Беларусі „Беларусбанк” разам з міністэрствамі фінансаў, эканомікі, юстыцыі рыхтуюць прапановы па кампенсацыі ўрону ад абясцэньвання ўкладаў насельніцтва.

Ветэраны кампенсацыі дачакаліся. Няўжо пашанцуе і нам усім?

● ФОТАЗНАЁМСТВА З СУЧАСНІКАМ

## Вадзіцель Мікалай Ганчарэня



*Мікалай Іванавіч Ганчарэня працуе вадзіцелем у калгасе „Косава” не першы год.*

*Вопытны ён шафёр – і гэта вам пацвердзіць у гаспадарцы кожны. І працаваць Мікалай Іванавіч умее, любую работу, а яе ў калгасе для вадзіцеля грузавой машыны заўсёды хапае, выконвае з задавальненнем і стараннем.*

*НА ЗДЫМКУ: вадзіцель М. І. Ганчарэня.*

*Фота П. ЛУЧЫЦА.*

## Ці скажуць нашчадкі дзякуй?

Знаёмая – беларуска, але размаўляць на роднай мове амаль не можа. З-за гэтага шчыра перажывае. І лічыць ненармальным, што ў загане ў нас сёння родная мова. Сёлета яе дачушка ідзе ў першы клас. Дзяўчынку афармілі ў ... рускамоўны. „Яна, мо, у Маскве вучыцца будзе”..

Не разумею... І хто зразумее нас, беларусаў, якія самі адвучваюць дзяцей ад роднай мовы?

У СШ № 4 райцэнтра чатыры першыя класы. Па жаданню бацькоў два з іх – з рускаймовай навучання. У трэцяй школе першых класаў шэсць. Зноў палова – з рускай мовай навучання. Тое ж у СШ № 2 – з двух першых класаў толькі адзін з беларускай мовай навучання. І толькі ў СШ № 1 усе тры першыя класы з роднай мовай навучання. З гэтай школы некалькі бацькоў нават „перабеглі” ў іншыя школы – мо, так ненавісна ім нават тое, што не самі, а дзіця іх будзе вучыцца на беларускай мове... Усё па жаданню бацькоў – па нашай добрай волі.

Калі пойдзе так далей – хіба ёсць шансы проста выжыць мове беларускай, а з ёй – і самой нацыі? Якую бомбу пад сваю будучыню, пад будучыню сваіх дзяцей закладваем сёння – мы хоць разумеем?

## Вось такая эканомія

У папярэднім нумары нашай газеты мы паведамлялі аб тым,што базавая школа ў Чамялах стала ў гэтым годзе пачатковай. Вучні – чамялоўцы сярэдніх і старэйшых класаў павінны ў гэтым годзе наведваць школы ў Магіліцах і Вольцы.

Рэарганізацыя школы праведзена зыходзячы з эканамічнай мэтазгоднасці па рашэнню райвыканкама. У мінулым годзе ў школе ўсяго было 25 вучняў. Шостага і сёмага класа не было наогул. Педагагічны калектыў налічваў восем настаўнікаў. І вось – школа стала пачатковай. Настаўнікаў засталося два. Эканомія.

Але, прымаючы гэтае рашэнне, райвыканкам хіба спытаў аб гэтым у школьнікаў, вяскоўцаў, дырэктара школы, старшыні сельвыканкама? Не. Усе былі пастаўлены перад фактам.

І гэты факт для ўсіх у Чамялах прагучаў аглушальным стрэлам, пасля якога бацькі вучняў, старшыня сельвыканкама разгублена, безнадзейна пачалі кідацца ў розныя бакі ў пошуках адказу – што рабіць?

Да Магіліцаў – 5 кіламетраў дарогі. Да Волькі – 7. І перабягае гэтая дарога цераз „алімпійку”, праходзіць праз лес...

У мінулым годзе з яе незвычайна снежнай і марознай зімой вучні 10-11 класаў з Чамялоў спазняліся, здаралася, на 1-2 урокі – абяцанай машыны не маглі дачакацца, ішлі пешкі...

Гэта – старэйшыя. У гэтым годзе ў Магіліцы і Вольку пойдуць 11-14-цігадовыя хлопчыкі і дзяўчынкі. Якая маці не будзе хвалявацца за сваю дачку, калі Чамялы „заціснуты” паміж дзвюх аўтатрас? Які бацька будзе ўпэўнены, што сын дайшоў да школы, а не спыніўся ў лесе, і не праседжвае заняткі ў самаробнай зямлянцы? Колькі могуць вытрымаць дзявочыя туфелькі, калі штодзённа імі праходзіць па 14 кіламетраў па асфальце і гравійцы?

Чаго прасцей – арганізаваць падвоз дзяцей у школу... Ды вось гэта якраз і няпроста. У мінулым годзе і цяпер праблема для вёскі – адвезці дзетак у дзіцячы садок. Распадаецца літаральна калгасны аўтобус, не хапае бензіну.

Падлічым. У дзень, прыблізна, каб падвезці вучняў трэба каля 5 літраў бензіну. У годзе каля 200 вучэбных дзён. Адзін літр каштуе 3,5 тысячы. На год затраты на гаручае складаюць каля 3,5 мільёна.

Другі падлік. Шэсць настаўнікаў, якія працавалі ў школе ў Чамялах і якія не працуюць, атрымлівалі штомесяц (гэта – паўстаўкі) 300 тысячы рублёў кожны. Разам за месяц – 1,8 мільёна. За год – 21,6 мільёна. Такая эканомія атрымалася ў райвыканкама.

Дык чаму б з гэтых дваццаці не выдаткаваць тры – чатыры на арганізацыю цывілізаванага наведвання вучнямі з Чамялоў школ ў Магіліцах і Вольцы?

Сёння і заўтра яшчэ цёпла. Яшчэ падвозіць калгасная машына механізатараў, магчымасць быццам ёсць. А потым? Запрагаць у фурманку каня, усаджваць на воз гэтых 11 вучняў ды везці, бы цаганят, у школу?

Няўжо бедныя мы такія, што дзесятак вучняў ужо няма нам на чым прывезці – адвезці? Бедныя ці абыякавыя?

Старшыню сельвыканкама П. А. Лінкевіча, да якога ў першую чаргу і ідуць бацькі вучняў з гэтым пытаннем, быццам не ўпікнеш у абыякавасці. Але грошай у сельвыканкама сёння столькі ж, колькі зерня ў царкоўнага пацука.

Ды толькі ўлада – ёсць улада, няхай і бедная. А значыць – ёй і адказваць за дзяцей. На наш погляд, нельга заставацца ўбаку ад гэтай праблемы „мясцовага значэння” і аддзелу адукацыі райвыканкама.

**Па просьбе жыхароў в. Чамялы А. У. Галушка, Р. М. Горбач, Л. К. Макарэвіч, М. К. Аленіч.**

**В. ГАПЕЕЎ.**

## Увага: дзеці!

Пад такой вось назвай праводзіць дарожная аўтаінспекцыя месячнік прафілактычнай работы, накіраванай на зніжэнне дзіцячага траўматызму.

Працягнецца месячнік да 20 верасня. Вядома ж, правядзенне яго зусім невыпадкова супала з пачаткам заняткаў у школах. У райцэнтры дзве школы размешчаны побач з дарогамі, на якіх рух транспарту вельмі інтэнсіўны. Таму з пачатку заняткаў на перакрыжаваннях вуліц, у найбольш небяспечных месцах будуць дзяжурыць міліцыянеры – ДАІшнікі.

Міліцыя міліцыяй, але варта і бацькам не забывацца, выпраўляючы раніцай свайго школьніка на заняткі, нагадаць яму аб тым, што дарога жартаў і свавольстваў не даруе.

За гэтае лета ў раёне адбылося шэсць дарожна-транспартных здарэнняў з удзелам падлеткаў. Адзін непаўналетні, на жаль, загінуў.

## Настаўнік, выхавай вучня!

Бадай што, гэты вядомы выраз мог стаць дэвізам прайшоўшага на мінулым тыдні пленарнага жніўеньскага пасяджэння настаўніцтва раёна. Ён, у прынцыпе, і стаў ім, бо якое б выступленне ні гучала на традыцыйнай настаўніцкай нарадзе, кожнае закранала гэту стрыжневую праблему цяперашняга часу: як навучыць дзяцей вучыца, як развіць у іх жаданне імкнуцца да ведаў, нарэшце, на чым трэба сканцэнтраваць увагу, каб з сённяшняга падлетка, якому выпала жыць у мітусні матэрыяльных і маральных супярэчнасцяў, нягледзячы ні на што вырас дастойны чалавек, асоба, карысная для грамадства, свядома думаючы грамадзянін незалежнай дзяржавы.

Хутчэй не нарадай, а радай настаўнікаў раёна, – тых, хто прысвяціў педагагічнай дзейнасці добрую частку свайго жыцця, і тых, хто толькі пачаў працаваць на гэтай высакароднай ніве, ёсць сэнс назваць прайшоўшае пленарнае пасяджэнне. Хаця б таму, што праходзіла яно некалькі арыгінальна, без традыцыйнага і, што граху ўтойваць, нярэдка даволі надакучлівага даклада з не менш традыцыйнымі павучаннямі, патрабаваннямі.

Не дакладчыкам, а вядучым на ёй быў загадчык аддзела адукацыі райвыканкама В. М. Басалай. Пасля кожнага яго кароткага ўступу, умяшчаючага ў сабе згустак інфармацыі па той ці іншай праблеме, да мікрафона па чарзе падыходзілі настаўніца пачатковых класаў Зеленаборскай СШ Л. Я. Гойшык, завуч Воленскай сярэдняй школы Т. П. Раманюк, настаўніца фізікі Быценскай СШ С. Ф. Жытко, псіхолаг СШ № 1 г. Івацэвічы Т. А. Майсюк, дырэктар Косаўскага ВВК М. М. Шыманчык, намеснік дырэктара СШ № 4 г. Івацэвічы па пазакласнай і пазашкольнай рабоце А. Ф. Вялікаселец, кіраўнік гуртка Целяханскага Дома дзіцячай творчасці Л. А. Жыцянёў, настаўніца школы-гімназіі райцэнтра Т. Р. Казімірчык, выхавальніца дзіцячага садка „Вясёлка” К. Ф. Кібальчанка, спецыяліст па сацыяльнай ахове правоў дзяцей райаддзела адукацыі А. А. Корзан, дырэктар Косаўскай СШ Л. І. Белаусава, якія гаварылі не толькі пра той станоўчы вопыт, які назапашаны ў іхніх педагагічных калектывах па рабоце з дзецьмі, але і пра набалелае, што ў той ці іншай меры тармозіць навучальна-выхаваўчы працэс. Гэта і патрабуючая абнаўлення матэрыяльна-тэхнічная база нашых школ, і недастаткова насычаныя пэўным зместам сувязі ў такіх адказных звеннях названага вышэй працэсу, як ўзаемаадносіны паміж настаўнікамі і вучнямі, настаўнікамі і бацькамі, бацькамі і вучнямі. Гэта і недахоп рознага метадычна-дыдактычнага матэрыялу, няхватка падручнікаў і іх недасканаласць. Нарэшце, пра што таксама казалася з болем, трывожыць педагогаў раёна сённяшняя дэмаграфічная сітуацыя, страта многімі падлеткамі цікаўнасці да вучобы, разгубленасць выпускнікоў перад заўтрашнім днём, дзіцячая злачыннасць. Аналізуючы ход школьнай рэформы пра ўсё гэта, між іншым, услед за настаўнікамі гаварылі ў сваіх выступленнях і старшыня абласнога Савета Л. А. Лемяшэўскі, і кіраўнік раённай вертыкалі П. Г. Жышко.

Удзельнікі жніўеньскай нарады прагледзелі некалькі відэафільмаў, якія расказвалі пра пастаноўку выхаваўчага працэсу і ўзровень падрыхтаванасці да новага навучальнага года ў шэрагу школ нашага раёна, дружнымі апладысментамі аддзякавалі за гумарыстычную сцэнку, якую паставілі супрацоўнікі Івацэвіцкага Дома дзіцячай творчасці.

● ЁСЦЬ ТАЛЕНТЫ Ў ВЁСКАХ

# МОЖНА І ЖАРТУЮЧЫ ПАРАСЯ ЗАРАБІЦЬ...

Што, не верыце? Вось прачытайце да канца гэты артыкул, а як не жадаеце – то з'ездзіце самі ў Грыўдзенскі сельскі Дом культуры. Там вам яшчэ, мо, лепей пра ўсё раскажуць, чым я.

Прывяла нас у Грыўду карэспандэнтская сцежка. Вось тут, размаўляючы з людзьмі і пачулі мы, што ёсць у іх свае знакамітасці, такія людзі, аб якіх яны кажуць з гонарам, нават з нейкай улюбёнасцю. А былі гераінямі гэтых расказаў дзве дзяўчыны, ці правільней – дзве маладыя жанчыны, бо маюць яны ўжо свае сем'і і сваіх дзяцей. А дзяўчынамі хочацца іх назваць таму, што маюць яны маладыя гарачыя сэрцы, не растрацілі запалу душы.

Лушчык Таццяна Уладзіміраўна – загадчыца Грыўдзенскага сельскага Дома культуры.

Андрэева Наталля Мікалаеўна – мастацкі кіраўнік. „Ой, як возьме яна баян у рукі, ды так зайграе, так заспявае!..” – казалі пра гэтую жанчыну. Шкада, але нам паслухаць песні пад баян не давялося. А паразмаўляць з загадчыцай, Таццянай Уладзіміраўнай, мы паразмаўлялі.

На пытанне „Як справы?”, загадчыца, ніякавата ўсміхаючыся, паціскае плячыма – што тут казаць? Хіба самі не бачыце – Дом культуры стары, рамонту капітальнага патрабуе, а сродкаў на гэта няма. Зімой не абаграваўся – дорага, грошай не хапае... Ат, што тут казаць. Вось месца вакол – сама прыгажосць. Падрасчысціць яе крыху, пашырыць – то і летнюю пляцоўку можна будзе зрабіць. Вось ужо і працаваць над гэтым пачалі...

– А пляцоўка вам гэтая навошта? Так клопату мала?

– Як навошта? – Таццяна Уладзіміраўна глядзіць на мяне са шкадаваннем: ну, нічога я не разумею ў справах культурнага адпачынку. – Святы вёскі праводзіць. І старшыня калгаса нас падтрымлівае...

– Дапамагае старшыня?

– Ён нам і за бацьку, і за дзядзьку. Ледзь што – мы да старшыні. Бо хто нам яшчэ дапаможа з той жа машынай, з бензінам? Самадзейных артыстаў заахвочвае...

– Багата ў вас сваіх, грыўдзенскіх артыстаў?

– Ёсць свае, можна працаваць. У асноўным маладыя сем'і, інтэлегенцыя. Ды талентаў у вёсцы хапае.

– А чаго не хапае?

– Гледачоў, як гэта ні дзіўна. Іншы раз аж крыўдна бывае – столькі рыхтаваліся, хваляваліся, рэпеціравалі, а прыйдзе час выступлення – і ў зале ўсяго чалавек сорак...

Так, гэта і на самай справе можа быць крыўдным. Але не трэба вінаваціць, відаць, у гэтым нашых людзей. Народжаная бязладным жыццём абыякавасць пасялілася ў душах вяскоўцаў (у горадзе, дарэчы, тое ж). Некалі рымскія рабы патрабавалі ад імператара дзве рэчы – „Хлеба и зрелищ!”. Ну, а мы сёння дбаем хіба толькі пра хлеб.

Але верыць Таццяна Уладзіміраўна, верыць яе сяброўка і памочніца Наталля Міхайлаўна, вераць і ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці, што іх праца – не дарэмная. Што змогуць яны разбудзіць сэрцы сяльчан шчырай песняй і добрым жартам. Вераць, бо працуюць.

Закончыла некалі Таццяна Уладзіміраўна Лушчык бібліятэчны тэхнікум, працавала нейкі час у сталіцы, а потым так склалася, што прыехала на радзіму. І стала... загадчыцай клуба. Хутка далучылася да яе Наталля Андрэева і разам яны распачалі тое, што называецца ў нас іншы раз паблажліва „культурнай дзейнасцю”. Сёння пры Грыўдзенскім сельскім Доме культуры працуе тры аматарскіх аб'яднанні, 11 розных гурткоў, дзве фальклорныя групы, два сямейныя калектывы. Не, і на самай справе, не збяднела наша зямля на таленты.

Толькі вось не паказваюць больш у вёсцы кіно – з-за той жа пасіўнасці гледачоў. Ды тут няма чаму дзівіцца – справы з наведваннем кінатэатраў у нас – куды ні глянь – усюды прастора. Не ходзяць людзі, мо і таму, што па тэлевізары „круцяць” шмат чаго і добрага, і захапляльнага, і некалі забароненага.

Сёння ў Дом культуры спяшаецца хіба што моладзь – на дыскатэку. На жаль работнікаў гэтай установы, не зусім у парадку музыкальная апаратура, і нельга ўводзіць хоць нейкі кошт за білет, бо якасць музычнага суправаджэння дыскатэк на нізкім узроўні. Якая ўжо тут можа быць плата!

Ну, а цяпер пра парася пагаворым, якое можна жартуючы зарабіць. Вось трымаю я ў руках дыплом сапраўдны, з пячаткай, прыгожы. А ў ім напісана, што ўзнагароджваецца гумарыстычны гурт Грыўдзенскага сельскага Дома культуры за шчырыя і дасціпныя жарты, за багатую фантазію.

А створаны гэты гурт быў з пяці грыўдзенцаў напярэдадні абласнога фестываля гумару „Спораўскія жарты”, які праходзіў у сярэдзіне лета, здагадваецеся, што на Спораўскім возеры. Дык вось ад нашага раёна браў удзел у гэтым фестывалі гумарыстычны гурт з вёскі Грыўда. І дыплом атрымалі, і медаль адмысловы, гліняны. Вельмі спадабалася гледачам і журы іхняя праграма. Назад вярнуліся...

– А парася як жа, Наталля Уладзіміраўна?

– А-а, парася... – смяецца яна ў адказ. – Не пашанцавала нам з надвор'ем – гэткая халадэча ўсчалася. Мы выступілі, іншых паглядзелі. Ды на заключную частку не засталіся – вельмі ўжо ўсе замерзлі, ды яшчэ і ехаць нам далёка. А ў той заключнай частцы і ўручалі прызы неафіцыйныя. Як нам апасля паведамілі – мы сваім выступам парася сапраўднае зарабілі, жывое. Але не вяртацца ж ужо за ім.

**В. ГАПЕЕЎ.**

● ВЯСКОЎЦЫ

# Жаночыя працавітыя рукі





*Гэтых людзей добра ведаюць у Рэчках. Раіса Фёдараўна Кот, якую вы бачыце на верхнім здымку, працуе ў магазіне загадчыцай. Хоць у гандлі яна не вельмі даўно, гадоў гэтак пад тры, але паспела займець аўтарытэт у аднавяскоўцаў сваёй ветлівасцю, уменнем працаваць, дбайнасцю пра тое, каб было ў магазіне ўсё, што неабходна сёння вясковаму чалавеку.*

*Ну, а жанчыны, што на здымку ўнізе, працуюць у Рэчках паварамі. Працуюць у асноўным вясною, летам і восенню, калі ў мясцовым калгасе „Рассвет” арганізоўваецца гарачае харчаванне для тых людзей, хто заняты правядзеннем адказных палявых работ. Ужо не першы год рыхтуюць абеды калгасным механізатарам Вера Мікалаеўна Кот і Алена Канстанцінаўна Кот. І атрымліваецца гэта ў іх добра, пра што сведчаць падзячныя словы за якасць прыгатавання, якія жанчыны часта чуюць ад хлебаробаў.*

*Фота П. ЛУЧЫЦА.*




*Дорогую Валентину Васильевну ЖУК поздравляем с днём рождения.*

*Желаем быть всегда красивой,*
*А также доброй и простой,*
*Всегда приветливой и милой,*
*Всегда любимой, дорогой.*
*Чтобы Вы не знали горя,*
*Чтобы счастья было море,*
*Никогда чтоб не болели,*
*Очень долго не старели,*
*Чтобы люди уважали,*
*Часто в гости приглашали,*
*Чтобы в жизни Вашей личной*
*Было все всегда отлично.*

*Коллектив работников Ивацевичского Дома детского творчества.*

***

*Дорогого Валерия Сергеевича МОЛОША от всей души поздравляем с днём рождения.*

*Желаем счастья без печали,*
*Желаем, чтоб друзья твои*
*Тебя не огорчали,*
*Чтоб звезды были*
*Средь зимы и лета,*
*Чтоб было очень много света.*
*И пусть желанное свершится,*
*Ведь ради этого*
*И стоило родиться.*

*Коллектив работников Ивацевичского Дома детского творчества.*

***

*Горячо и сердечно поздравляем с днём рождения АБРАМЧУКА Игоря Михайловича из г. п. Телеханы.*

*Пусть годы бегут за годами,*
*О том, что прошло, не грусти*
*А тех, кто когда-то обидел,*
*Обиды всем сердцем прости.*
*Не трать свои нервы напрасно.*
*Здоровья не купишь нигде.*
*Пусть жизнь твоя будет прекрасной*
*Здоровья и счастья тебе!*

*Семья БОРЩУКОВ.*

***

*Дорогой наш муж, папа, дедушка ПЕТРУЧЕНЯ Михаил Александрович из д. Могилицы. Сердечно поздравляем с 60-тилетием. Желаем крепкого здоровья, счастья, долгих лет жизни.*

*Мы возраст твой считаем не годами,*
*А добротой и лаской, и теплом.*
*И пусть сегодня ты будешь с нами*
*За этим праздничным столом.*
*Мы все твоим улыбкам рады.*
*И повторяем вновь и вновь:*
*Пусть будет все тебе наградой –*
*Здоровье, счастье и любовь.*

*Жена Анастасия, сын Михаил, невестка Елена и внук Женька.*



**Паважаныя Аляксандр Фёдаравіч, Ірына Фёдараўна і Дашка КАРАНЕЎСКІЯ!**

**Прыміце нашы шчырыя спачуванні ў сувязі з напаткаўшым вас вялікім горам – смерцю бацькі, свёкра, дзядулі. Няхай яны хоць крыху аблегчаць ваш боль і смутак.**

**В. МОЛАШ, М. КАЛІНКА.**

● СПЕЦЗАДАНИЕ

# А тут кони пляшут в такт...

Ах, кони, кони: высокие, стройные, гордые, кажется, вот-вот в пляс готовы пойти, только заиграй им какое-нибудь „Яблочко" или даже не менее известную „Лезгинку". Таким коням, думалось глядя на них, все под силу: что под русскую, что под грузинскую мелодию танцевать.

Где такие кони есть – спросите? Недалеко, даже совсем недалеко от Ивацевич. В Любищицах, в колхозе местном. Нет, не для пахоты и не для подвозки кормов они здесь, не для другой обычной на селе работы. Привилегированные, можно сказать, это кони, потому что спортивные. Вот и смотрятся так величественно. А уж если на тренировки вышли на конкурное поле, что тут же, рядом с конюшней, от их бега и прижков через барьеры дух захватывает.

Впрочем, дух захватывает уже от одних их кличек: Пересвет, Элексир, Парагвай, Граф. Все чытыре – жеребцы-производители. Смотрятся действительно истинными кавалерами. Но и „дамы" их не особенно уступают своей статью, разве что называются поскромнее: Виона, Наука, Родина, Венгерка...

Не первый год существует в колхозе „Любищицы" конно-спортивная школа. Не пожалело когда-то колхозное руководство денег немалых, приобрело с десяток таких „лошадок", что сельчане со всех концов сбегались поглядеть на них. Любовались да языками причмокивали: „Поди ж ты, есть же на свете такие красавцы. Не чета нашим четвероногим трудягам". Именно во время одного из таких смотров кто-то из колхозников, кто на язык да на ум поострее, и сорвал дружный смех своей репликой с этакой социальной подоплекой: „Оно и видно, городские кони. Ну точь в точь отличие их от наших, как горожане отличаются от нас, колхозников задрипанных, фуфаечников несчастных". Смеялись тогда люди без злобы и обиды всякой, что есть-то есть: в сравнении услышанном каждый нашел хоть какую-то толику правды.

Так в колхозе появилась еще одна конюшня, правда, уже привилегированная. Да и называлась она не иначе, как конно-спортивная школа. А есть школа – должны быть и ученики. И они появились. В желающих стать изысканными наездниками, а еще лучше, признанными спортсменами, недостатка не было. И стали ребята, школьники из Любищиц и Ивацевич, Майска и Панков, под руководством тренеров овладевать мастерством верховой езды. Да не просто езды, просто так и на колхозных лошадях „погойсать" можно было. А тут тебе и круговая левада, как называется в конном спорте выездка з рядом специальных элементов, и конкура – преодоление верхом на лошади препятствий. С удовольствием занимались всем этим подростки. И со временем успехов определенных добивались. Валерия Штаненко, сегодня стоматолог, одной из первых второго спортивного разряда удостоилась. А сегодня такой разряд у Валерия Скробота, по третьему – у Лены Федорчик и Саши Стука. Как говорят, все впереди еще у школьников из Майска Дениса Куля и Марины Жуляб.

Начинается же у них очередной день с ухода за лошадьми. Надо было видеть, с какой любовью ухаживала за своим любимцем „Графом", скакуном породы „Белорусская упряжная", семиклассница Алеся Конон. Да и другие длинноногие красавцы не оставались без внимания: ни Элексир известной Тракененской породы, которого ребята ласково еще Лёшкой называют, ни Коралл, ни Анкор. У каждого из этих красавцев – свои отличия, свои успехи. У того же Анкора отца за границу купили. Значит, стоило за что. Графа на сборы в известную под Минском Ратомку брали. Парагвай в так называемых соревнованиях „Вольво", победитель которых автомобиля с аналогичным названием удостаивается, участвовал. Не допрыгал Парагвай до иномарки, но и так хорошо, уже в одних таких состязаниях участвовать престижно.





*НА СНИМКАХ: на конкурном поле преодолевает препятствие тренер Е. В. Гнедчик;*

*вот как выглядит красавец-конь, да ещё с юной наездницей.*

*Фото П. ЛУЧИЦА.*

Если уж продолжать о спортивных достижениях, то нельзя не вспомнить, что на базе Любищицкой конно-спортивной школы проходили областные соревнования, первыми на которых были юные хозяева конкурного поля. Победителями вернулись они и с состязаний, проводимых в Зазерье Минской области. Эта победа особенно дорога юным наездникам, так как одержана она на чужих лошадях, что значительно усложняло участие в соревнованиях. Ведь своих лошадей уже хорошо знаешь, знаешь их норов и повадки, а тут попробуй войди к ним в доверие за какой-то день-другой до выхода на поле... Это все равно, что выходит на поле команда, только перед этим собранная из футболистов разных коллективов. Каково им играть, не зная друг друга, ясненько...

И на своих четвероногих любимцах выступали любищане. Выезжали в Ляховичи, Ганцевичи, в Сенницу, что в Минской области. И пусть не всегда возвращались с победой, зато с настроением обязательно, потому что каждое такое соревнование рассматривалось не иначе, как очередной ступенькой к вершинам мастерства. Одно дело – тренироваться на своем поле, другое – видеть перед собой серьезных соперников и испытывать напряжение в борьбе за победу.

Но... только когда было все это, когда? Три года вот уже никуда не выезжают любищицкие любители конного спорта, разве как на свое собственное поле. Да и оно серьёзного ремонта давно требует.

– Не на чем выезжать, – с болью в голосе говорила тренер конно-спортивной школы, кандидат в мастера спорта Евгения Владимировна Гнедчик. – Из пяти имеющихся седел только два в рабочем состоянии. А это значит, именно столько одновременно могут тренироваться. У нас же 16 спортивных лошадей имеется...

– Приходят ребята, чтобы записаться в секцию, а им вынуждены отказывать. Снаряжения для тренировок нет же, – вторила тренеру берейтер Татьяна Алексеевна Волощик, в обязанности которой входит ухаживание за спортивными лошадьми и подготовка их к тренировкам. Между прочим, ответственные это обязанности, требуют много знаний специальных, что и продемонстрировала в разговоре с нами Татьяна Алексеевна.

Она и заговорила первой о том, что, имея столько нужд, юные наездники могли бы кое-какие средства сами заработать. Почему бы, по ее мнению, не устроить по выходным дням, а по праздничным – тем более, в нашем райцентре прокат лошадей. Скажем, на том же городском стадионе обязательно нашлись бы люди, кто пожелал бы за определенную плату то ли верхом на красавце-коне проехаться, то ли в бричке. А детям, детям сколько радости было бы от такого, в красивой бричке, путешествия по стадиону! Да что в бричке, можно было бы и на маленьком конике, который пони по-научному называется, даже верхом покататься. Их четыре у них имеется. Был же праздник деревни в Любищицах, от детей отбоя не было. Что трехлетним, что десятилетним – всем одинаково хотелось побыть впервые в жизни наездником настоящей лошади, пускай хоть маленькой. И были, за символические деньги, без всякой жалости выделенные своим любимым чадам мамами и папами. Столько радостного настроения приобрели тогда юные любищане. Только и разговоров было тогда в деревне, как о катаниях на лошадях.

– Так почему бы все это в райцентре не организовать? – вступает в разговор тренер Евгения Гнедчик. – Ведь скучают же дети без настоящих занятий, не знают, как временем своим распорядиться...

Говорила она и о возможности продажи той или иной спортивной лошади. Стоят они сегодня прилично, вот и были бы средства для обновления материальной базы, то же снаряжение за что приобрести. Кстати, и покупатели находились, но что-то не решились и не решаются в колхозе на продажу. Но и внимания должного к коням не проявляют. Не потому ли и рацион кормления у последних более чем беден сегодня?

– На обычном пайке они у нас, – говорили в один голос Татьяна Волощик и конюх Игорь Плескацевич. – Вместо трех раз, как раньше было, сегодня раз в день только овсом их балуем. А спортивным лошадям не только сено и овес, но и комбикорм еще нужен".

И тоска, и обида звучали в голосе не только тренера, берейтера, конюха, но и юных наездников, на глазах которых росло с каждым годом и месяцем равнодушие со стороны колхозного руководства к нуждам конно-спортивной школы. Но не теряют они надежды, что вдруг изменится такое отношение к ним в лучшую сторону, что посмотрят в правлении колхоза, а может быть и выше, в райисполкоме, на конно-спортивную школу в Любищицах как на что-то необходимое, полезное, нужное, а не на второстепенное, не требующее особого к себе внимания. Говорим же постоянно о том, чем ребят увлечь, чтобы они ерундой всякой не занимались. Конно-спортивная школа тут как раз кстати была бы. Ведь сделай хороший закрытый манеж для занятий с лошадьми – и тем же подросткам не только летом, но и зимою свободное время коротать где нашлось бы. Да не просто коротать, но с пользой. Глядишь, кто-то из них и в спортсмены известные выбился бы.

А пока, перед тем как покинуть конно-спортивную школу в Любищицах, мы с удовольствием наблюдали, как рысила на Парагвае Марина Жуляб, как исполнял тренинг на Графе Саша Стук. Приятное это было зрелище.

– Сегодня и у лошадей, и у детей – лёгкая работа. А вот завтра пригать будем, это и труднее, и интереснее, – говорила нам на прощание тренер Евгения Гнедчик. С тем и расстались.

**М. РЫМАЧ.**



**Супрацоўнікі атрада ваенізаванай пажарнай службы г. Івацэвічы выказваюць шчырыя спачуванні інспектару дзяржпажнагляду АВПС Каранеўскаму Аляксандру Фёдаравічу з прычыны напаткаўшага яго вялікага гора – смерці БАЦЬКІ.**

Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў Баранавіцкай друкарні (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80). Выходзіць два разы на тыдзень: у сераду і суботу.
Фармат 420х300 мм. Аб'ём – 1 друк аркуш.
Падпісана да друку 2 верасня ў 14.00.

ЗАСНАВАЛЬНІК: гандлёва-прамысловая фірма „Івацэвічы" Рэгістрацыйны нумар 482.

Рэдактар Лідзія ЦАЛУЙКА.

НАШ АДРАС: 225250, г. Івацэвічы, вул. Дзяржынскага, 30, рэдакцыя „Газеты Уладзіміра Кудзінава". Тэлефоны: рэдактара – 2-12-29, карэспандэнтаў – 2-46-30.

Рукапісы і здымкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні і выказванні могуць не супадаць з пунктам гледжання рэдакцыі і не накладваюць на яе ніякіх абавязацельстваў. Пры перадрукоўванні спасылка на нашу газету абавязковая.

Індэкс 63959. Тыраж 2.390 экз. Заказ № 1646.